Андрэй Александровіч

# ПАДАРУНАК



ДВБ · МЕНСК · 1946

АНДРЭЙ АЛЕКСАНДРОВІЧ

# ПАДАРУНАК ДЗЕТКАМ МАЛАЛЕТКАМ



ДВБ ЮНДЗЕТСЕКТАР МЕНСК 1936

# КАЛЫХАНКА

Ціха, кіска,
Ціха, братка,
У калысцы
Спіць дзіцятка.
Будзь-жа добранькім — глядзі
Дзіцянё не разбудзі.





Ох, ты, кіска,
Ох, паганы,
Скінуў міску
З кашкай маннай.
Галубкі лятуць, лятуць —
Кашку гэту паядуць.





Чуеш, кіска,
Блізка, блізка,
Мышка блудзіць,
Дзетку будзіць.
Час не трацьжа, а-ні-ні,
Гэту мышку прагані.



Лапкай кіска
Ля калыскі
Чухаў вуха,
Слухаў, слухаў—
А пранюхаў—дык пад печ
Тую мышку выгнаў прэч.



# ХЛОПЦЫ ВЫНАХОДЦЫ



Два браты, Ігнат і Ціхан,
Каб цікава дзень пражыць,
Згаварыліся, паціху,
Нешта нейкае зрабіць,

І адразу ўзяўшы клетку,
Пару слоікаў, тапор—
Разам, скрыта, неўзаметку,
Хлопцы выбеглі на двор.



Як прышла дадому маці,
Дома хлопцаў не было.
Хто паможа адшукаць іх?
Гора матчына расло.

Дзе не пойдзе—ўсё дарма:
Іх—няма, няма, няма.
Што за ліха,
Ўсё няўлад,
Дзе-ж ён, Ціхан?
Дзе-ж Ігнат?

Расказала маці Мотку,
Мотка доўга не чакаў—
Каб сабраць
Дзяцей на сходку,
У трубу трубіць пачаў



Паляцелі, як на крыллях,
На сігнал з усіх канцоў.
А сабраўшыся, рашылі
Выйсці ў пошукі хлапцоў.



Хто куды, як следапыты,
Разышлася дзетвара!
Бегаў з імі Жук сярдзіты
Ад двара і да двара.

Скрозь хадзілі і дарма:
Іх—няма, няма, няма.
Што за ліха,
Ўсё няўлад.
Дзе-ж ён, Ціхан?
Дзе-ж Ігнат?



Мотка стаў і разважае:
— Мо' яны пайшлі ў кіно?
Наглядае за трамваем,
На трамваі не відно.



— Дзе-ж маглі яны падзецца?
Разам з хлопцамі цяпер—
Едзе на матацыклетцы
Нават міліцыянер!

Баявыя самалёты
Над садамі загулі.
Два разведчыкі-пілоты
Смела ў пошукі плылі.

Скрозь кружылі і дарма:
Іх—няма, няма, няма.
Што за ліха,
Усё няўлад.
Дзе-ж ён, Ціхан?
Дзе-ж Ігнат?

Не знайсці ніяк. Дасада.
Што прыдумаць? Што пачаць?
Зноў зышліся, зноў нарада:
Дзе шукаць і як шукаць.

— „От, загадка!“—думаў Мотка.
— Пачакайце,—крыкнуў Ян,—
Мо‘ яны зрабілі лодку
І плывуць у акіян?

— Ну й прыдумаў! Хто дасць веры?
Засмяяўся ўвесь атрад.
— Мо‘ плывуць у стратасферу,
Свой зрабіўшы стратастат?

Кіньце жарты. Трэба бегчы.
А куды? куды? куды?
Жук у сад пайшоў прылегчы,
Свежай выпіўшы вады.







Сад зялёны, кучаравы,
Колькі кветак і кустоў,
Колькі мушак і казявак,
І цікавых матылькоў.

Слівы, яблыкі, ігрушы...
І вішняк густы, густы!
Жук, хвастом сваім кіўнуўшы,
Стаў разглядываць кусты.

Задрыжэў. Наставіў вуха.
Да кустоў падбег і стаў.
Углядаўся. Слухаў, слухаў—
Потым дзецям знак падаў.

„Гаў-гаў-гаў"—пачулі дзеці.
Да Жучка падбеглі ў сад.
Жук падскочыў, ён падмеціў,
Тут—і Ціхан і Ігнат.

І адразу злосным гулам
Закрычала дзетвара:
— Вось знайшлі сабе прытулак,
Марш дамоў! Пара! Пара!



Цэльны дзень мы вас шукалі,
Гэткі быў перапалох!
Ціхан здзіўлен:
— Мы-ж не зналі,
Мы працуем тут удвох.

Мы збіралі зелянушкі,
Мушкі, сушкі і жучкі.
Ёсць і птушкі-весялушкі
І крылушкі-матылькі.

— Мы,—пачаў далей Ігнацік,
Адступіўшы крышку ўбок,—
Мы рашылі ў нашай хаце
Свой зрабіць—жывы куток!

Дзеці ўсё-ткі нападаюць:
— Вы-б сказалі, нельга так!
Потым гуртам разглядаюць
Мушку, сушку і чарвяк.

Шапаціць на дрэвах вецце.
Вее вецер. Сонца свеціць.
Стала ціха
Кожны рад:
Ёсць і Ціхан
І Ігнат.







# ХЛОПЧЫК і ПЕВЕНЬ

Сам сабе катлетку смажыў
І запэцкаўся у сажу.
Каб ніхто не змог сварыцца,
Ён рашыў пайсці памыцца.

А слану ён загадаў,
Каб катлетку пільнаваў.



Ку-ку-рэ-ку! Ку-ку-рэ-ку!
Вось і певень тут аднекуль.
Даўганогі, спрытны гэткі,
Падляцеў, хапіў катлетку.

Дзюбаў, дзюбаў—аслабеў,
Толькі збрудзіў, а не з'еў.



Хлопчык зірк,—няма катлеткі,
Аж заплакаў з крыўды гэткай.
— Вось, паганы! Вось нашкодзіў,
Кыш, пракляты, ах, ты, злодзі.

Певень крыллі распасцёр—
Праз акно уцёк на двор.



Як даведалася маці,
Пачала сынка ўпікаці:
— Эх, сыночак, мой Андрэй,
Больш з агнём ты не дурэй.

Як захочаш есці—знай,
Сваю мамку пачакай.



# Казка пра пана Жываглота

За марамі, там дзе горы,
За гарамі, дзе вазёры,
За вазёрамі, пад сонцам,
У закінутай старонцы
Ёсць гара.
  На тэй гары,
У дубовым гушчары,
Жыў спакойна ўвесь свой век
Невядомы чалавек.

  Жыў багатым жываглотам.
Працаваць не меў ахвоты.
Ад зары і да зары
Знемагалі за работай,
Пад крывавым, горкім потам
Толькі птушкі і звяры.



Сам ні сеяў, ні араў,
Ледзь нагой перастулаў,
А ўсяго яму ставала—
Хлеба, солі, круп і сала.







Свінні дзікія аралі,
Галкі ўслед баранавалі,
Бусел сеяў. Нават козы
Дзёрлі лыка з вербалозаў
А мядзведзь каля кустоў
З таго лыка лапці плёў.





Як засцеліць завіруха
Шлях-дарогу белым пухам,
Ці на захад, ці на ўсход
Сабіраецца ў паход
Зверадавец-гаспадар
Прадаваць дабро-тавар.
Двор гудзіць перапалохам,
Усцілалі санкі мохам,
Кожны лётаў,
  Ахаў,
    Охаў—
Суматоха, суматоха...
Загудзеў мядзведзь у рог,
Што ласёў ужо запрог.
Гусі-лебедзі вароты
Адчыняюць жываглоту.
Дзятлы б'юць у барабан:
— Едзе,
    Едзе,
      Едзе
        Пан!
Вераб'і іграюць марш:
— Едзе,
   Едзе —
     На кірмаш!..






Пан сядзіць і ў вус не дуе,
Едзе ноч—адну, другую.
Без канца, бесперастанку,
Колькі сілы цягнуць санкі
Цераз пушчы, цераз горы,
Праз даліны, праз вазёры,
Без дарогі, без шляхоў—
Адзінаццаць пар ласёў.

А з бакоў бягуць ваўкі,
Як стральцы-варгаўнікі.
Караван стралой імчыцца,
Хмарай снежны пыл віхрыцца.
Пану—
Мала. ой, як мала,
Гоніць ход, страшэнны ход!

Злосць ласёў забушавала,
Гневам кроў забунтавала:
— Эх, трымайся, жываглот!
Як рванулі, тузанулі,
Санкі ўбок перавярнулі.
Пан кручком перакуліўся
І, як бочка, пакаціўся
З горкі—
Ўніз,
Уніз,
Уніз...



Пана снегам заваліла,
Курганом расла магіла.
— Будзе помніць, будзе знаць,
Як чужую кроў смактаць!

А ласі з ваўкамі ходу—
Ў лес,
На волю,
На свабоду!



# ЛЕС

У густым сасновым лесе
Многа звону, многа песень,
Многа радасці і ўцехі:
Белка шчолкае арэхі,
Пагуляць ідзе лісічка,
Чутна дзятлаў пераклічка;
Шапаціць-шуршыць трава,
Колькі ў лесе хараства!
Дружна скачуць звераняты:
Зайцы, козы, ваўчаняты,
А як толькі стане днець—
Скача з імі і мядзведзь.



# ПАВОДКА

Рэчка бераг свой ламала
І навалай гнала шквал.
Вал за валам бушавала,
Свой спраўляла карнавал.

На бурлівую паводку
Паглядзець прыбег Сымон.
Стаў на крыгу, ўбачыў лодку,
Лодку ўзяць надумаў ён.






Хвалі крыгу адкалолі,
Вецер крыгу закруціў.
Уцячы Сымон не здолеў
І на крызе ўніз паплыў.

Не сціхаў шалёны рокат,
Крыгу нёс вадаварот.
А ляцеў і невысока
Лёгкакрылы самалёт.




Бачыць лётчык—там унізе
Нехта шапкаю трасе,
Просіць помачы на крызе,
А вада яго нясе...

Апусціўся ніжай лётчык,
Кінуў шнур яму на лёд,
Абкруціўся шнурам хлопчык
І папоўз у самалёт.





Лётчык зноў падняўся ўгору,
І Сымон вясёлым стаў:
Першы раз свой родны горад
З самалёта разглядаў.

З вышыні Сымон, вядома,
Свой пазнаў высокі дом.
На страсе такога дома
Ёсць у нас аэрадром.



Самалёт зрабіў пасадку,
І Сымонка—тут як тут,
Са страхі саскочыў гладка,
Распусціўшы парашут.

Ён здаволены, а ўсё-ткі—
Пройдзе нават многа год,
Не забудзе ён паводкі,
Будзе помніць ледаход!






Гэй, ад краю ў край, спявай—
Сёння свята—Першы май.
На парад мы выйшлі шчыра:
Раз,
Два,
Тры,
Чатыры!
На парад, за радам рад,
Ударных шмат ідзе брыгад.
Мы таксама брыгадзіры:
Раз,
Два,
Тры,
Чатыры!
Ёсць на свеце 'шчэ паны,
Ім так хочацца вайны.
Мы будуем справу міра:
Раз,
Два,
Тры,
Чатыры!

# ГОРАД РАНІЦОЮ

Сёння сонца ўстала рана,
Глянула на горад,—
Спяць кругом. Пазачыняны
Брамы, калідоры.

Вышаў дворнік неўзабаве,
Глянуў—сонца свеціць.
Стаў на брук, мятлу паправіў,
Вымятае смецце.



З поўгадзіны не мінула,
І гудок фабрычны
Моцна так, зазыўным гулам,
На работу кліча.

Горад радасна ўздыхае,
Горад разбудзілі.
Строем выбеглі трамваі
І аўтамабілі.

Адмыкаюць крамы, вокны,
Бразгаюць засовы.
На страху пагрэцца скокнуў
Кот белагаловы.





Завіхаюцца кабеты
У пякарнях, крамках,
Каб хутчэй купіць для дзетак
Свежых абаранкаў.



Ёсць няшчасці—і наўперад
Ад такіх выпадкаў
Рупна міліцыянеры
Сочаць за парадкам.




І няпозна: толькі восем,
А ўжо шумна гэтак,
Бач, газетчыкі разносяць
Свежыя газеты.



Гул на вуліцы без меры,
Сонца прыпякае.
Дзеці ў трусіках на скверы
Абручы качаюць.



А над горадам канатам
Дым віецца чорны.
Знача, новы дзень пачаты
І ў фабрычных горнах.

Тут рабочыя працуюць
І старанна гэтак:
Долю лепшую будуюць
Для маленькіх дзетак.





# РЫБАК

За гарой, лясочкам,
Сонейка заснула
І к сабе дзянёчак
Ручкай прыгарнула.

Летні вечар слаўна
Па зямлі гуляе.
Ветрык гэтак спраўна
Ёлачкі схіляе...



Ціха ля кусточка
Хлопчык невялічкі,
Каб не сплюшчыць вочкі,
Адшукаў сярнічкі,

Запаліў ён голле,
Іскры зашугалі.
Цішыня на полі,
Усе казяўкі спалі.



Як мінула ночка,
Вудачкаю гібкай,
Сеўшы ля кусточка,
Хлопчык ловіць рыбку.

Ловіць ён на мушкі,
Казлячкі, асоткі,
Ловіць ён аркушкі,
Ловіць ён і плоткі.



Б‘ецца так шчасліва
Маладое сэрца.
Рыбы, як на дзіва,
Поўнае вядзерца!

На плячо ўзяў вуду
І пайшоў дадому.
От-жа рады будуць
Хлопчыку малому!







# ЯК ЦАЦКІ ДОМА ЗРАБІЦЬ САМОМУ

Вось мы гуляем, а ў гульні
Заўсёды захапляемся,
І што вакол нас—а-ні-ні,
Зусім не прыглядаемся.
А грамадою—раз-два-тры,
Вясёлай, дружнай працай
Мы можам лёганька змайстрыць
Шмат цікавых цацак.











— О, як добра! Сядзем разам
За работу ўсе адразу.
А работу каб пачаць,
Матэр‘ялы трэ‘ сабраць.

І сабралі: хто арэх,
Хто каштан, пушысты мех,
Клею крышку, нож, сучкі,
Дрот, сярнічкі, ласкуткі.
І з вялікаю ахвотай
Дзеці селі за работу.





Арэх—
    да арэха,
І смех, і пацеха—
Зрабілі жывот, галаву.
Далей скарысталі
І пух, і каралі
І так змайстравалі
Саву.
І шмат розных цацак,
Абы толькі ўзяцца—
Мы ў нас робім самі
Сваімі рукамі.



У высокіх ботах
Захаваўшы лапкі,
Бусел на балотах
Спрытна ловіць жабкі.



★



Раз-два! Раз-два!
Вось вялікая сава.
Поруч, з правае старонкі,
Два маленькія савёнкі.



Ножкі зроблены з сярнічак,
А галоўкі з каштана.
Вось і вышлі, як адна,
Вострадзюбыя сястрычкі—
Тры маленькія сінічкі.

*

Злосны кот,
Шырокі рот,
От—нягоднік, абармот:
Ён ляціць бягом, па пятках,
За труслівым мышаняткам.



*

Бегла ў госці
Малпа-матка.
Ўслед за маткай
Малпаняткі.
Крыкам просяць:
— Мама, мама,
Нас вазьмі з сабой таксама.



*

Верабейчыкі свіргочуць,—
Дзюб-ступ, дзюб-ступ:
Дзеткі-кветкі,
Есці хочам—
Дзюб-ступ,
Дайце круп.



*

Ен вядомы чалавеку
Сваёй песняй—ку-ка-рэ-ку,
І пяе ён так штодня.
— Адгадай яго імя?



*

Птах сядзіць і дбаць не дбае...
А яго спрабуй, спужай:
Дурнем ён цябе аблае.
Ты-ж не злуй, ты пэўна знаеш
Што такое... папугай?



# МЫ 

# абяцаем

І Ясь, і Міколка, і Мая—
Мы голасна ўсім абяцаем,
Што жыць будзем гэтак цяпер,
Як лепшы жыве піонер.

*Каб верным было наша слова*
*Мы ўтрох падпісалі умову.*



Перш за ўсё, каб дужым стаць—
Мы ў пару кладземся спаць.
Строіць жарты-весялушкі,
Кідаць коўдры і падушкі
Адвучыліся зусім.
Мы заўсёды добра спім.



Кожнай раніцай адразу
Неабходны абавязак:
Возьмем шчоткі—зубы тром
Беласнежным парашком.
Па чарзе, пад кранам мыем
Рукі, вушы, твар і шыю.

*Чыста мыцца – наша ўмова.*
*Той, хто чысты – той здаровы.*



Пачынаем дзень спачатку
Фізкультурнаю зарадкай.
Крок—налева, крок—направа,
Нават Ясь маленькі жвавы—
Усе заняткі па парадку
У яго праходзяць гладка.
Ён стараецца, таму
І ўдаецца так яму.






Мы за стол утрох сядаем.
Кніжкі ўважліва чытаем.
З намі Ясь сядзіць, не скача,
Ён рашае ўсё задачы:
— Каб да трох і два прыдаць?
Будзе... тры, чатыры, пяць.



Вольны час у нас цікавы:
Мы будуем для забавы.
Вось канчаем пабудовай
Новы дом шматпавярховы.
Ясь дастаў сабе газетку,
Склаў з газеткі авіетку,
Адшукаў ён і ласкут
І майструе парашут.



Як зямлю прыгрэе сонца,
Мы вясёлыя бясконца.
Мы качаем абручы,
Мы падкідваем мячы,
А пад вечар мы, як след,
Забаўляемся ў кракет.

★

Гэтак Ясь, Міколка, Мая
Абяцанне выпаўняюць.

## ЗМЕСТ

